# БЯРОЗКА



ЛІПЕНЬ

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ 1946 г.



7

**БЯРОЗКА**

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

№ 7

**ЛІПЕНЬ**

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



*22 ліпеня ў горадзе Маскве адбыўся Усесаюзны парад фізкультурнікаў. На парадзе маскоўскія школьнікі Юра Вальноў і Рэгіна Хмялеўская перадалі І. В. Сталіну і В. М. Молатаву кветкі. Ласкава сустрэлі Юру і Рэгіну таварыш Сталін і таварыш Молатаў.*

Фота Е. Халдзея (ТАСС).

# Ля прамога провада

Капітан Н. ПАНАМАРОЎ

Калі яшчэ басаногім хлопчыкам бегаў я з сябрамі па роднай вёсцы на Кіеўшчыне, было ў мяне два жаданні...

Я не марыў стаць лётчыкам, як іншыя мае сябры. Мне проста хацелася хоць-бы раз палятаць на самалёце. Няхай нават пасажырам, але падняцца ўвысь і адтуль, з птушынага палёту, паглядзець на зямлю, на шырокія палі і лугі, на рэкі, гарады і вёскі.

І яшчэ вельмі марыў я аб тым, каб убачыць Сталіна.

Ішлі гады. Толькі ў 1940 годзе, ужо дваццацічатырохгадовым афіцэрам-сувязістам, упершыню паляцеў я на самалёце.

Пачалася вайна.

— ... Вы назначаны тэлеграфістам у Стаўку Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, — сказаў мне інжынер-маёр Паўлаў. — Ці справіцеся вы, таварыш лейтэнант, з гэтай адказнай і пачэснай задачай?

— Спраўлюся,—адказаў я злёгку задрыжэўшым голасам,—зраблю ўсё, што змагу, каб апраўдаць давер'е.

— Будзеце абслугоўваць апарат «Бодо», — сказаў інжынер-маёр. — Размовы будзе весці асабіста таварыш Сталін.

«Збываецца жаданая мара,—думаў я, астаўшыся адзін.—Збываецца. Якое вялікае шчасце! Няўжо мне выпала на долю тое, аб чым мараць мільёны савецкіх людзей?!»

У памяшканні Стаўкі мне адвялі асобны светлы пакой на другім паверсе. Як і ўсе пакоі, ён быў абсталяваны проста: стол для тэлеграфнага апарата, два звычайныя крэслы і адно мяккае, кушэтка, на якой я спаў, высокі, пакрыты зялёным сукном пакаты стол для геаграфічнай карты, кавёр на падлозе.

Апарат я атрымаў самы навейшы, зроблены на адным з ленінградскіх заводаў. Я хутка устанавіў яго, некалькі разоў праверыў,— працуе дасканала.



Капітан Н. Панамароў.

Доўга чакаць не прышлося, хоць хвіліны здаваліся мне гадзінамі. Лішне гаварыць, як я хваляваўся. Мне здаецца, што кожны на маім месцы перажываў-бы тое самае. Я чакаў, што адчыняцца дзверы майго пакоя, і ў яго зойдзе таварыш Сталін.

Гэта здарылася ў першы-ж дзень маёй работы ў Стаўцы. Пасля паўдня мне загадалі выклікаць да прамога провада адзін з франтоў. Праз некалькі хвілін я паведаміў, што сувязь наладжана.

Амаль у той-жа час адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў таварыш Сталін. Ён яшчэ не насіў тады вайсковай формы, быў адзеты ў свой звычайны шэры касцюм. Ён быў такім-жа, якім я яго з дзяцінства ведаў па фатаграфіях.

Я далажыў:

— Тэлеграфіст Стаўкі лейтэнант Панамароў.

Ён паглядзеў мне ў вочы, падаў руку, прывітаўся. У яго вачах свяцілася добрая бацькоўская ўсмешка. Ад гэтага ласкавага позірку мне адразу стала цёпла на душы.

Спакойным ціхім голасам таварыш Сталін прасіў перадаць, што ён знаходзіцца ля апарата.

Я сеў за стол. Сталін стаяў поплеч са







мною. Ён запытаў аб становішчы на фронце. Становішча было цяжкім. Сталін уважліва чытаў адказ, увесь углыбіўся ў свае думкі. Потым ён падышоў да карты, што ляжала на пакатым стале, і пачаў яе разглядаць. Таварыш Васілеўскі, які зайшоў у пакой, адзначаў на карце пункты, перададзеныя па тэлеграфу.

Неўзабаве таварыш Сталін стаў дыктаваць мне свае ўказанні фронту. Ён гаварыў аб перагрупіроўцы войск, аб уводзе ў бой новых рэзерваў, папярэджваў аб намерах ворага. Ён дыктаваў павольна, уважліва сачыў за тым, як я перадаваў яго сказы, ніколі не забягаў наперад і не адставаў ад маёй перадачы ні на момант. Мова яго мяне здзівіла. Праз усе гады работы ў Стаўцы я захапляўся тым, як выразна, ясна і проста гаворыць таварыш Сталін. У яго сказах не было ніводнага лішняга слова. Кожная думка была адшліфавана да адказу. Нават складаныя назвы населеных пунктаў, гарадоў, пасёлкаў, рэк, азёр ён ведаў напамяць, называў іх, не заглядваючы ў карты і паперы.

Працаваць мне было лёгка. Я хутка перадаваў сталінскія ўказанні. Яны былі не толькі самымі яснымі, але і ахаплялі ўсе драбніцы дзеянняў фронта. Ён называў асобныя вайсковыя часці, прозвішчы іх камандзіраў, дакладна ўказваў, дзе размясціць асобныя роды войск, як манеўрыраваць імі. Мяне надзвычай здзіўляла тое, як дакладна ведае таварыш Сталін нават падрабязнасці вайсковай справы, якая ў яго надзвычайная памяць. Я выстукваў па апарату назвы дзесяткаў дывізій і армій, прозвішчы іх камандуючых, і ўсё гэта таварыш Сталін дыктаваў мне напамяць, нібы ён ясна бачыў, якую пазіцыю займае кожная часць, бачыў у твар кожнага яе камандзіра.

Плаўна і спакойна цякла яго прамова. Калі сустракалася асабліва цяжкое слова, таварыш Сталін браў аловак і на лістку паперы пісаў гэтае слова за некалькі секунд да таго, як ён скажа яго, і прысоўваў паперу да мяне, каб я мог беспамылкова весці перадачу.

Скончыўшы свае ўказанні, таварыш Сталін запытаўся, якія меркаванні камандуючага фронтам. У адказ апарат выстукаў:

— Прыступаю да выканання вашых указанняў, таварыш Сталін.

Тады ён сказаў апошні сказ, якім звычайна канчаў размову:

—Жадаю поспеху. Да пабачэння.

* * *

Размовы таварыша Сталіна па прамым провадзе адбываліся ў розны час дня і ночы. Часцей за ўсё глыбокай ноччу або на світанні. У першыя месяцы вайны былі дні, калі таварыш Сталін па тры-чатыры разы вёў размовы па прамым провадзе з самымі рознымі ўчасткамі фронта ад Белага да Чорнага мораў. Не было дня, каб я не бачыў тады таварыша Сталіна, не назіраў той велічнай работы, якую ён вёў на карысць і шчасце Радзімы.

Памятаю такі выпадак у цяжкія дні кастрычніка 1941 года. Немцы стаялі пад Масквой. Цяжка было ў мяне на душы. Але вось у апаратную ўвайшоў таварыш Сталін з сваімі саратнікамі. Твар яго быў заклапочаны, але вочы свяціліся ўсё тым-жа добрым, прыветным позіркам. Ён быў такі-ж спакойны, як і заўсёды. Ён прывітаўся са мной. Я паглядзеў на таварыша Сталіна, і на душы ў мяне адразу адлягло.

Да тэлеграфнага апарата былі выкліканы таварышы Жукаў і Ракасоўскі. Таварыш Сталін даў ім падрабязныя ўказанні. Ён сказаў, як трэба расставіць сілы, куды кінуць рэзервы. Ён гаварыў, як звычайна, ціха, спакойна, не спяшаючыся, уважліва сочачы за маёй работай.

Гэта была гістарычная размова таварыша Сталіна па прамым провадзе ў дні незабыўнай абароны Масквы. Вялікі палкаводзец прадбачыў блізкі перелом і ўказаў, што чакае павароту падзей.

— Усе ўказанні будуць выкананы,—адказаў яму Жукаў.— Мы парадуем вас, таварыш Сталін.

Ён усміхнуўся, прадыктаваў:

— Жадаю поспеху.

* * *

Нямала цяжкіх дзён перажыла наша Радзіма. Вярхоўны Галоўнакамандуючы заўсёды быў упэўнены ў сваёй Чырвонай Арміі, у сваім народзе. Цвёрда кіраваў ён фронтамі. Мудрыя сталінскія ўказанні заўсёды давалі добрыя вынікі.

Усе мае дні праходзілі ў апаратнай Стаўкі. Напружаная работа вялася тут круглыя суткі. У прыёмным зале заўсёды знаходзіліся вайсковыя і грамадзянскія работнікі, якіх таварыш Сталін выклікаў для перамоў.

Спаць я стараўся класціся толькі тады, калі таварыш Сталін канчаў працу. Вось чаму я добра ведаю, як многа і напружана працаваў наш правадыр, калі каваў перамогу над лютым ворагам. Да самага світання, а то і да раніцы працаваў ён нястомна і многа. У поўдзень ужо зноў пачыналася кіпучая дзейнасць Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Колькі ні бачыў я за ўсе чатыры гады вайны таварыша Сталіна, заўсёды ён быў спакойны, энергічны. І хоць з часам прыкметна пабялелі яго валасы, і вялікія клопаты паклалі адбітак на яго твар, ён заставаўся такім-жа рухавым, жыццерадасным, ветлівым, простым. Калі-б ні заходзіў ён у апаратную, заўсёды ласкава ўсміхнецца, пажартуе, запытаецца, ці не змарыўся я. Аднойчы, убачыўшы падушку на маёй кушэтцы і даведаўшыся, што я сплю тут-жа, у апаратнай, ён занепакоіўся, ці не стамляюся я, сказаў, што трэба больш бываць на паветры, часцей гуляць.

Да глыбіні душы крануў мяне гэты сталінскі клопат аб простым чалавеку.

— Што вы, не турбуйцеся, калі ласка, таварыш Сталін,—узмаліўся я,—не думайце пра мяне, калі ласка... У вас і так турбот многа. Я добра сплю і не стамляюся...

Усё-ж прышлося даць слова, што я буду часцей гуляць, і толькі тады мне дазволілі несці нязменнае дзяжурства на пачэсным пасту ля прамога провада.

Гэты выпадак напоўніў маё сэрца яшчэ большай любоўю да таварыша Сталіна— шчырага друга простых людзей.

Таварыш Молатаў у сваёй прамове сказаў, што Сталін—наша шчасце. Гэта— велізарнае шчасце! Нашаму вялікаму правадыру абавязаны мы перамогай.

(Скарочаны перадрук з часопіса «Огонёк»).



*Капітуляцыя бабруйскай групіроўкі.*

З карціны мастакоў Н. Беляніцкага і Гарэнюка.

# НАРОДНЫЯ МСЦІЎЦЫ

*Малюнкі мастака-партызана Л. БОЙКІ*

3 ліпеня 1941 года, у цяжкія для нашай Радзімы дні, выступіў з прамовай па радыё таварыш Сталін.

Ён сказаў:

«У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі варожай арміі...»

Па закліку любімага правадыра таварыша Сталіна супроць нямецкіх захопнікаў падняўся ўвесь беларускі народ— і дарослыя, і дзеці.

Больш 340 тысяч народных мсціўцаў пайшлі ў лясы. Яны арганізаваліся ў партызанскія атрады і вялі бязлітасную партызанскую вайну з ворагам: падрывалі масты і эшалоны, знішчалі нямецкіх салдат і афіцэраў.

Настаў час, і гераічная Чырвоная Армія разам з партызанамі вызваліла Беларусь з нямецкай няволі. 3 ліпеня 1944 года была вызвалена наша сталіца — Мінск. Гэты дзень беларускі народ святкуе, як дзень свайго вызвалення.

У радах народных мсціўцаў у беларускіх лясах знаходзіўся мастак Л. Бойка. Ён зрабіў каля 300 замалёвак з жыцця партызан. Некаторыя яго малюнкі мы змяшчаем на гэтых старонках.



*Самаробны рухавік для дынамамашыны.*



*Партызаны едуць у разведку.*










*На малюнках: 1. Партызаны з атрада „Полымя". 2. У зямлянцы. Справа—юны партызан Косця Балыкаў на пасту. 3. Пабудова зямлянкі.*

# Памочнік машыніста

В. ЗУБ

*Мал. С. Раманава*

Я вяртаўся з вайны. Чатыры гады мяне не было дома, і я з хваляваннем чакаў сустрэчы з сям'ёй. Я-ж з імі развітаўся ў самы цяжкі момант, калі немцы падыходзілі да нашага мястэчка.

За ўсю вайну мне так і не ўдалося наладзіць з імі сувязь, але да мяне дайшлі чуткі, што мая жонка і малодшая дачка вярнуліся з эвакуацыі на сваю радзіму. Толькі ніякіх вестак я не меў аб сваім Лёньку, за якога я больш усяго хваляваўся. Ён, памятаю, ні за што не хацеў ехаць у тыл, а хацеў застацца са мной партызаніць. Прышлося сілаю пасадзіць яго ў машыну. Затое ён паабяцаў мне ўсёроўна збегчы. Можа і збег, хто яго ведае, такі-ж непаслухмяны хлопчык удаўся, што проста бяда. Зараз яму ўжо гадоў пятнаццаць будзе, але ці вышаў з яго які толк, я моцна сумняваўся.

Поезд, у якім я ехаў, спыніўся на станцыі. Я глянуў у акно і, убачыўшы на пероне жанчыну з піражкамі, парашыў выйсці, каб купіць чаго-небудзь для перакускі.

Але не паспеў я ступіць на зямлю, як бачу: з-пад вагона выскачыў хлапчук, увесь забруджаны сажай і нейкай мазутай і вельмі-ж падобны з твару на майго Лёньку.

— Лёнька!—гукнуў я на ўсякі выпадак, і можаце ўявіць маё здзіўленне, калі хлопчык раптам спыніўся.

Праз хвіліну я абнімаў майго роднага сына і цалаваў яго брудны, увесь у сажы, твар. Я аглядаў яго з галавы да ног, і ў мяне да болю сціскалася сэрца. «Беспрытульным зрабіўся», з жалем думаў я. «Вось што значыць гадаванне без бацькі. Пад вагонам бедны, мусіць, едзе, а ў мяне грошай хапае, ды і вопратку вязу яму»...

— Ну, нічога, нічога, сынок,—пapляскаў я яго па плячы,—усё будзе добра... Цяпер ты не будзеш беспрытульным. Ты пачакай, Лёнька, тут, а я зараз збегаю ў касу, табе білет куплю ды паедзем дахаты...

— Навошта мне білет?—спытаў Лёнька.

— Як гэта навошта?—здзівіўся я.—Не бойся, грошай у мяне хопіць.

— Але-ж мне ўсёроўна не трэба...—пачаў быў тлумачыць Лёнька.

— Ну, ты кінь гэта, — адказаў я і шпарка пабег у касу.

Лёнька схапіў мяне за рукаў, ён нешта хацеў сказаць мне, але я ўжо не слухаў, спяшаючыся ў касу.

А калі я вярнуўся назад з білетам, Лёнькі ўжо на тым месцы не было. Мой сын знік таксама нечакана, як і з'явіўся. У гэты час поезд крануўся. Я ўскочыў на ўсходкі з думкаю, што Лёнька, відаць, не дачакаўся мяне і зноў дзе-небудзь прымайстраваўся ехаць без білета.

Калі праз гадзіну поезд спыніўся зноў, я кінуўся шукаць Лёньку. Дзе я яго толькі не шукаў: і ў вагонах, і пад вагонамі, і на стрэхах, і пад стрэхамі, нарэшце, дабраўся да самага паравоза. Глянуў у будку машыніста і тут... убачыў свайго сына. Ён стаяў, важна абапёршыся на нейкі паравозны кран, і аб нечым раіўся з высокім барадатым дзядькам ў флоцкай майцы.

З радасці я кінуўся ў будку, схапіў сына і хацеў весці ў вагон. Але барадаты



*Ядвігін Ш.*

*Мал. В. Басава*



# Вучоны бык

Павёў Язэп бычка-трацячка на рынак прадаваць; па дарозе спаткаў салдатаў; тыя і пытаюцца Язэпа:

— Куды, старча, бычка вядзеш?

— На торг прадаваць вяду,—кажа Язэп,—такі нейкі няўдалы, наравісты ўдаўся, што рады даць не магу.

— Эх, дурны ты, землячок,—кажуць салдаты,—што-ж ты возьмеш за гэтую злыбіну? Аддай лепш нам яго на навуку ў горад на які год, дык прынамсі пасля жмені са тры грошай згорнеш.

Падумаў, пачухаў патыліцу Язэп, — падумаў—згадзіўся і аддаў бычка на навуку салдатам, а сам вярнуўся дадому.

Мінуў год; пайшоў Язэп у горад па свайго быка. Дапытаўся салдатаў, катарым аддаў сваю жывёлу на навуку, прыходзіць да іх і пытае:

— Ну, землячкі, як мой падласы? Ці добра навучыўся?

— Ах, каб ты ведаў,—кажуць яны,—якой бяды набраліся мы з ім! Спярша—як спярша: брыкаўся, тузаўся, бадаўся,—але неяк далі рады: угаманіўся; толькі, як прышло ўжо да самой навукі, то так скора пачаў браць усё ў свой бычачы розум, што аж рогі паадпадалі, шэрсць выпаўзла, стаў хадзіць на дзвёх нагах, словам, зусім падабнюсенькі стаўся да чалавека, а які разумны, аж дзіва!



— *Ну, землячкі, як мой падласы?*

— Ну, я яму скора выганю гэты розум з галавы,—кажа Язэп,—толькі вядзіце мяне ў хлеў, дзе ён стаіць.

— Звар'яцеў ты, чалавеча, ці што?—кажуць салдаты,—праўда, чакаў ён цябе, але жыць болей з намі не захацеў: дагадзіць яму не маглі патрапіць, а перабраўся ён цяпер на сваю кватэру і, чутно, папаў у вялікія чыноўнікі.

— Пакажыце толькі,—просіць Язэп,—дзе ён жыве, а я ўжо сам дам рады: нябось, пастронкі моцныя ўзяў.

Салдаты завялі Язэпа, паказалі дом, куды ісці, а самі ўцяклі. Язэп, убачыўшы на двары нейкага чалавека, пытае: «Дзе тут жыве бык?»

— Не бык,—адказвае той,—а Быкаў, вунь у тыя дзверы ідзі.

Раскруціўшы пастронак і прыгатаваўшы пугу, смела Язэп адчыняе адны—другія дзверы і апынуўся ў вялікім пакоі, дзе ўбачыў абедаючага за сталом пана.

— Табе чаго?—пытае той.

Язэп, падміргваючы адным вокам, зарагатаў і кажа:

— Іш ты, падласы, які ласун! Нябось, не спазнаў гаспадара?

— Вон пайшоў!—крыкнуў пан, выскачыўшы з-за стала.

— Быську, быську, — стаў усцішваць Язэп разгневанага пана, але той рынуўся на яго з кулакамі.

Язэп, доўга не чакаючы, закінуў на пана пастронак, зацягнуў яго, ды давай акладваць пугай.

Нямаведама, чым-бы гэта скончылася, каб не збегліся на крык людзі і не абаранілі пана.




*Ядвігін Ш.*

У сетку з дзіўна-хітра сплеценых нітак папалася муха.

Сетку зрабіў і наставіў павук. Зрабіў і наставіў, як рабілі і настаўлялі такія-ж самыя сеткі павуковы дзяды і прадзеды.

Папалася ў сетку муха, як пападаліся ў такія-ж сеткі яе бабкі і прабабкі. Як там было ў гэтых сетках бабкам і прабабкам, муха чула і ведала, але цяпер, як толькі наляцеў на яе павук з сваімі клешнямі ды пачаў накідаць кандалы, сцягваючы і звязваючы імі крыллі з ножкамі, яна заартачылася:

— Слухай ты,—кажа, — крывапіўца, натуру тваю дасканальна знаю і ведаю, што дабра ад цябе не спадзявацца: дайжа хоць слова сказаць...

— Э-э,—адказвае павук, ведаю я гэтыя гутаркі вашыя—старая песня! Кожная з вас, як толькі пападзецца да мяне, усялякімі тонамі галосіць: «павук крывапіўца!» А ці-ж я адзін такі? Ці мала такіх-жа крывапіўцаў паміж вашага брата? Глянь на аваднёў, камароў: іх цэлыя хмары. Ды з твайго роду ёсць такія, што калі ўрэжа ў лытку...

—Не, павук,—перапыніла муха,—тое, ды і не тое: праўда, ссуць і яны кроў, але жыцця не адбіраюць, а і то, праўду кажучы, хоць іншым разам і ім не даеш ты спуску, усё-ж такі лічым мы іх больш тваімі спадручнікамі, чым нашымі. Такія, як я, нічога супольнага з імі не маюць: мы жывём божым дарам.

—Чым-бы вы там не жылі, — ужо злосна пераняў мову мухі павук,—гэта мне ўсёроўна... Мне толькі абы была кроў, а пакуль ваш род не звядзецца, то і павукам крыві хопіць.

—А ці ведаеш-жа ты, пракляты вісельнік,—пачала муха,—што хоць згіну я, згіне яшчэ не адна такая, як я, але як зразу наляціць цэлы рой мух, ударыць у тваю сетку, тады не толькі яна паляціць у ласкуткі, а бадай і ты жывым не выйдзеш? Здзекваўся ты, пакуль па адной нас перабіраў, але зыкну я толькі,—цэлая хмара...

— Ха, ха,ха,—зарагатаў павук і наляцеў ужо на галаву мухі. — Зыкнеш? Ты зыкнеш? Недачаканне! Недачаканне тваё...

І павук, запеніўшыся са злосці, як бач прабіў галаву мусе і пачаў смактаць з яе кроў.

Ніколі, здавалася павуку, не смакавала так яму кроў, як гэтай мухі. Ніколі такой прагавітасці ў яго не было, як вось цяпер. Вісеў ён над мухай, ажно пакуль да капелькі крыві не высcаў з яе, і тады толькі адбегся і глыбока зашыўся ў сваю шчыліну.

Хоць і сыты быў—не спаў гэтай ночы павук. Неспакойныя думкі налятали на крывёй залітыя павуковы мазгі. А што, калі і праўда наляціць адразу цэлы рой мух? Ці ўтрымаецца сетка? Ці здолее ён даць усім адразу рады? І як гэта адважылася гэтакая паганая муха такое слова яму, яму — павуку — сказаць? Не адна муха мо' не раз ужо і думала так, але каб сказаць?..

Не спаў гэтай ночы павук, а назаўтра, надумаўся, зрабіў і наставіў новых яшчэ дзесяць сетак.



*Сасна на Палессі.*

Фота А. Дзітлава.




# Дарога ў атрад

*(З матэрыялаў, прысланых у кнігу беларускіх рэбят)*

Наша вёска Ягадка стаяла каля самага лесу. Пры наступленні немцаў там заставалася шмат зброі. Я і надумаўся збіраць яе для партызанаў. Але аднаму рабіць гэта было страшнавата. Аб сваім намеры я расказаў суседскаму хлопчыку Марату Добушу, які сябраваў са мною.

Вечарам таго-ж дня мы ўзялі торбы і накіраваліся на «работу». Прайшлі агародамі—і ў лес. На ўскрайку спыніліся, прыслухаліся. Навокал было ціха, толькі воддаль чуліся рэдкія вінтовачныя стрэлы. Хто страляў, мы не ведалі. Не звярнуўшы на гэта ўвагі, мы рушылі ў глыб сасняку. Для смеласці трымаліся паблізу адзін аднаго. Неўзабаве мы наткнуліся на кучу гранат, якія ляжалі каля маладой развесістай елачкі. Убачыўшы іх, мы затрэсліся, нібы ў ліхаманцы: гэтулькі зброі мы яшчэ не бачылі. Хвіліну стаялі, быццам аслупянелыя. Потым пачалі раіцца, што рабіць. Сышліся на тым, што іх трэба схаваць. Мы перанеслі гранаты на ўскраіну і закапалі ў яму пад арэхавым кустом. Каб ніхто не пазнаў гэтае месца, мы засыпалі яго лісцем.

Узрадаваўшыся першаму поспеху, мы зноў пусціліся ў пошукі· У адным месцы знайшлі станкавы кулямёт, каля якога ляжаў забіты чалавек. Вакол кулямёта валяліся адны гільзы. Відаць, кулямётчык да апошняга патрона вёў агонь з кулямёта і, як герой загінуў у барацьбе з немцамі. Мы наказалі старыку Сідаровічу Пракопу. Той употай зрабіў труну і прынёс у лес. Мы дапамаглі яму выкапаць магілу і пахавалі героя-кулямётчыка. Дакументаў пры ім ніякіх не было, і мы не даведаліся, якое яго прозвішча і адкуль ён родам.



Кулямёт мы прыцягнулі ў вёску і схавалі каля нашай хаты ў старым склепе. Затым мы знайшлі яшчэ ручны кулямёт, тол, бікфордаў шнур. Усё гэта мы занеслі туды-ж. Хутка наш склеп ператварыўся ў невялікі склад узбраення.

У вёску пачалі прыязджаць партызаны. Яны цішком дапытваліся, у каго ёсць зброя.

— У мяне ёсць,—неяк прызнаўся я. І на першы раз даў ім дзесяць гранат.

У другі раз яны прыехалі ноччу і пачалі стукаць у дзверы. Маці перапалохалася: яна думала, што гэта паліцаі.

— Што вам трэба? — запыталася яна.

— Дзе ваш Шура?

— Спіць...

— Пабудзіце яго.

Маці расштурхала мяне і сказала, у чым справа. Я адразу здагадаўся і вышаў на двор. Іх было пяць чалавек.

— Камісар атрада прасіў, каб ты дастаў яшчэ дзесятак гранат,—сказаў адзін з іх, відаць, старшы.

Я першы раз пачуў слова «камісар». Яно ўсхвалявала мяне, і я прашаптаў: «Гэта можна...»

— Давай іх сюды.

— А на чым вы іх павязеце? — спытаў я.

— Мы панясём на сабе.

— У вас не хопіць сіл.

— А хіба іх так многа?—здзівіліся яны.

— Многа,—прамовіў я і павёў да ямы. Калі яны ўбачылі, колькі там гранат, то аж за галовы схапіліся.

— Дзе ты набраў іх столькі?

Я расказаў.

— Малайчына ты!—пахваліў старшы і загадаў двум партызанам схадзіць на пасёлак і ўзяць каня. Тыя пайшлі і хутка вярнуліся з падводай. Пагрузіўшы на воз гранаты, старшы раптам спытаўся, ці ёсць у мяне запалы. Я сказаў, што зараз у мяне няма, але я магу дастаць. Ён папрасіў абавязкова дастаць, бо яны «патрэбны дазарэзу».

Раніцой я пайшоў да Марата і паведаміў, што было ноччу. Ён выслухаў мяне і кажа:

— Добра зрабіў, што аддаў зброю, але дзе мы возьмем запалы?

Я адкрыў яму сакрэт. Недалёка ад нас жыў селянін Левановіч. Яго сын Ігнась прынёс з лесу скрынку запалаў. Аб гэтым ён расказаў сам. Дзе ён схаваў яе, я не ведаў. Цяпер ён збіраўся ісці ў паліцыю. Каб падкрэсліць сваю адданасць немцам, ён збіраўся занесці ім і скрынку з запаламі. Каб яны не дасталіся ворагу, мы павінны былі адшукаць іх і выкрасці. Склалі план дзеяння: днём мы павінны знайсці яе месцазнаходжанне, а вечарам забраць.

Падпільнаваўшы, калі Левановічы пайшлі на поле, мы кінуліся ў разведку. Мы кружыліся каля хаты з такім выглядам, нібы што згубілі і цяпер шукаем. Пасля доўгіх пошукаў мы заўважылі, што ў адным месцы на прызбе зямля была крыху свяжэйшая, чым у астатніх. Я ўзяў кусок тоўстага дроту і пачаў пароць. Хутка ён застукаў аб нешта цвёрдае. Гэта была скрынка.

Вярнуліся дадому радасныя і ўзбуджаныя і пачалі чакаць вечара. Як толькі сцямнела, я і Марат падкраліся да Левановічавай хаты, асцярожна адкапалі скрынку і прынеслі да нас. Праз ноч прыехалі партызаны і забралі яе. У гэты прыезд мы аддалі ім і кулямёты. Партызаны ад душы падзякавалі нам за дапамогу.

Праз некаторы час немцы зрабілі налёт на вёску. Яны схапілі нашых бацькоў. Мы зразумелі, што немцы даведаліся аб нашай сувязі з партызанамі. Я і мой брат Толя паспелі ўцячы. Прыбеглі ў лес. Ва ўмоўленым месцы нас ужо чакаў Марат. Адсопшыся крыху, мы сталі наглядаць, што дзеецца ў вёсцы. Мы бачылі, як дапытвалі і збівалі нашых бацькоў, як потым павялі іх у падвал лесапільнага завода. Мы знаходзіліся недалёка ад іх і не маглі нічым дапамагчы. Ад гэтага было вельмі крыўдна і балюча, і мы заплакалі. Бацькі, вядома, нічога не выдалі нямецкім катам. А як пазней мы даведаліся, многіх жыхароў вёскі, у тым ліку і нашых бацькоў, расстралялі.

І вось я, Толя і Марат сталі круглымі сіротамі. Вяртацца ў вёску было бескарысна—нас таксама маглі схапіць і расстраляць. У нас была адна дарога—у партызаны. І мы ўсе трое падаліся ў атрад Беражнёва.

*Шура НЯМІРКА.*

М-ка Бярэзіна




У лістападзе 1942 года ў сяло Маконь, Чэрвеньскага раёна, наляцела карная экспедыцыя немцаў. Дзесяткі мірных жыхароў былі расстраляны, 16 чалавек спалены жывымі. Не пашкадавалі гітлераўскія забойцы ні 102-гадовага дзеда Якуба Нюхневіча, ні яго 4-гадовага ўнука.

Незадоўга да гэтай крывавай расправы дзеда Якуба і хлопчыка намаляваў мастак Л. Бойка.



# Яблынька

*Мал. Ф. Круглянскага*

На ўзроўі высокім,
Дзе дуб рос магутны
Ды ўнізе крынічка
Звінела ледзь чутна,—
Расла невялікая
Яблынька дзікая.
Выкапаў дзічку
Садоўнік вясною
І ў садзе яе
Пасадзіў, за сцяною.
Расла яна ў садзе
У добрым даглядзе.
А ў месяц у чэрвень
Наступнага году
Ён к ёй прышчапіў
Почку добрага роду.
І почка з карою
Зраслася. Вясною
З гэтае почкі
Выкручвацца сталі
Малыя лісточкі.

———

І вось прамінула
Ужо часу нямала.
Прад ім баявая
Дарога ляжала—
Ад Сталінграда
Да логава гада...
І часта пад грозным
Узрывам снарадаў
Успомніць ён родных
І садзік за хатай,
І там, у куточку,
Маленькую почку.

Калі-ж адгрымела
Вайна,—з перамогай
Сустрэла байца
Уся сям'я ля парога.
Ідзе ён праведаць
Свой садзік за хатай,
Дзе яблыняк, грушак
Пакінуў багата.
Вось бачыць ён яблыньку
Тут, у куточку:
І ўспомніў садоўнік
Маленькую почку...
«Дзень добры, малая!
Садоўнік гаворыць,—
І ты перанесла
Вялікае гора.
Ды перажыла ты
Ворагаў-катаў.
Нічога, малая,
Цяпер падрастай ты!

**Н. Гілевіч,**
вучань 6 класа Гаенскай НСШ.



## ЛЕТНІ ВЕЧАР

На дварэ цямнее,—
Гасне цёплы дзень;
Працавітых пчолак
Не чутно нідзе.

Не чуваць птушыных
Звонкіх галасоў,
Толькі з песняй дзеці
З лесу йдуць дамоў.

**Люся Лосік,**
вучаніца 3 класа, 46 школы г. Мінска.




*Д. АРМАНД*

*Мал. Д. Красільнікава*

## БЛАКІТНАЯ ПЯЧОРА[1]

Калі я быў маленькім хлопчыкам, царскі ўрад выслаў маіх бацькоў з Расіі за ўдзел у рэвалюцыі 1905 года. Яны паехалі за мяжу і ўзялі мяне з сабою. Мы пасяліліся ў Італіі на востраве Капры. У той час жыў там Аляксей Максімавіч Горкі, і вакол яго сабралася многа рускіх рэвалюцыянераў, якія вымушаны былі пакінуць радзіму.

На востраве Капры ёсць славутая Блакітная пячора. Яна такая прыгожая, што з усяго свету прыязджаюць людзі, каб паглядзець на яе. Італьянцы ўсюды прадаюць адкрыткі з малюнкамі гэтай пячоры.

Парашылі і мы паглядзець гэтае дзіва прыроды. Нанялі на прыстані лодку і паплылі па Сярэдземным моры ўздоўж берага Капры. На моры дзьмуў свежы вецер, пахла соллю і водарасцямі, белыя барашкі хваляў сляпілі вочы на сонцы. Збоку цягнуўся круты бераг, пакрыты густой цёмнай зелянінай кустоў і аліўкавых гаёў.

Але вось і Блакітная пячора. У высокай скале, якая стромка ўзвышалася над морам, — маленькая дзірка. Яна знаходзіцца якраз над вадой, і кожная хваля залівае яе даверху. Нам здавалася немагчымым праехаць праз яе. Але грабец спакойна выбраў момант, калі адкацілася чарговая хваля, і моцным ударам вёслаў увагнаў лодку ў вузкую каменную трубу.

— Нагнуцца! — скамандаваў ён нам. Прызнаюся, я не на жарты спужаўся. А што, калі раптам чарговая хваля дагоніць нас у трубе і залле з галавою? Аднак, усё абышлося шчасліва. Праход быў кароткі, і праз хвіліну мы апынуліся ў сярэдзіне.

Ад здзіўлення ў мяне нават дух захапіла. Мы плылі па падземельным возеры з чыстай, блакітнай вадой. Яна нібы свяцілася мяккім і таямнічым святлом. Замест неба над нашымі галовамі было каменнае скляпенне цёмна-сіняга колеру. Нават паветра ў Блакітнай пячоры таксама здавалася блакітным.

Бацька растлумачыў мне, што тут усё здаецца блакітным таму, што большая частка святла, якое трапляе сюды, праходзіць праз марскую ваду. Мы глядзім тут на ўсё нібы праз сінія акуляры.

Па пячоры плавалі дзесяткі два лодак. Мы таксама пачалі аб'язджаць усе яе закуткі. Месцамі ў бакі адыходзілі цёмныя ўглыбленні. Я прыдумваў ім назвы: «Рудая пячора», «Бурая пячора», «Шэрая пячора»... Хутка ў мяне не хапіла колераў.

У адным месцы ў сцяне пячоры быў невялікі выступ. На ім стаялі хлопчыкі. Яны былі голыя, калі не лічыць павязак на бёдрах. Кучаравыя чорныя валасы зліпліся, і з іх на твар сцякала вада. Знадворку было горача, а ў пячоры халаднавата і вільготна, і дзеці ляскаталі зубамі.

Важныя паны і пані пад'язджалі да

выступа і кідалі ў ваду срэбныя манеты. Манеты, ззяючы, шпарка апускаліся ў блакітную бездань, але хлопчыкі стралою кідаліся за імі, ныралі і навыперадкі спяшаліся злавіць іх. Не было выпадку, каб яны хоць адну выпусцілі. Пасля гэтага яны доўга яшчэ заставаліся пад вадою, плавалі там, звіваючыся, як рыбы, і чапляліся адзін за аднаго. Вада была зусім празрыстая, і іх спрытныя гібкія целы свіціліся ў глыбіні блакітным святлом і былі надзвычай прыгожыя. Паны ў лодках забаўляліся імі і зноў кідалі манеты. Я пачаў пляскаць у ладоні і, забыўшыся, што не ўмею нават плаваць, закрычаў:

— Я таксама хачу тут купацца! Я таксама хачу стаць блакітным!

Мама зірнула на мяне строга:

— Чаму ты радуешся і каму зайздросціш? — сказала яна. — Хіба не бачыш, што яны купаюцца не для прыемнасці, а для заработкаў. Гэта вельмі цяжкі хлеб. Яны мерзнуць тут цэлымі днямі; ад доўгага нырання ў іх ідзе кроў з горла, і праз год-два ў іх могуць быць сухоты.

І, дачакаўшыся, калі хлопчыкі вылезлі на выступ скалы, яна проста ў рукі падала ім некалькі манет. Яны зірнулі на яе са здзіўленнем.

— Сіньёра мусіць руская? — здагадаўся адзін з хлопчыкаў.



*Яна падала ім некалькі манет.*

## ПАДЗЯМЕЛЬНАЕ ВОЗЕРА

Неяк ужо будучы студэнтам я з таварышамі вандраваў па чорнаморскім беразе на Каўказе. Нас было чалавек дзесяць. Усе мы былі заўзятымі турыстамі і кожныя канікулы падарожнічалі. У гэты раз мы паспелі палазіць па ледніках Каўказскага хрыбта і пасля добра загарэць на сонечным пляжы ў Сухумі.

Аднойчы я расказаў сябрам пра Блакітную пячору. Усім захацелася там пабыць. Але навошта ездзіць так далёка? Хіба мала цудоўных мясцін і ў нас на радзіме?

І вось праз пару дзён мы ішлі да пячоры па горнай сцежцы, аддаляючыся ад мора. Ззаду засталіся апельсінавыя гаі і белыя будынкі дамоў адпачынку. Ніхто з нас толкам не ведаў, як трэба хадзіць па пячорах. Але праваднікa мы ўсё-такі не ўзялі: нам здавалася цікавей разабрацца самім у заблытаных калідорах і самім знайсці дарогу назад.

Вось і ўваход. Ён нізкі, завалены камennямі і зарос кустамі. Адразу прышлося паўзці. Каб не забрудзіць адзежу, мы паўзлі ў адных трусах. Спачатку ўваход крута ішоў уніз, але хутка павярнуў і гэтак-жа крута пайшоў уверх. На месцы згібу стаяла вада, але мы лёгка перайшлі яе. Запалілі свечкі.

Калі мы падняліся ўверх, перад намі адкрылася зала. Мы ўбачылі высокія скляпенні, на якіх віселі каменныя сасулькі — сталактыты. Другія сасулькі — сталагміты — раслі з падлогі ім насустрач. Са сталактытаў кропля за кропляю падала вада. У вадзе ёсць распушчаная вапна. Пры сцяканні кропель частка вады выпаралася, а вапна асядала і на нязначную долю падоўжвала абедзьве сасулькі. Гэта марудная работа цягнулася тысячы год. Патроху сасулькі рабіліся даўжэйшымі, сустракаліся і зрасталіся адна з другою, ствараючы калону.

У нас не было пэўнага плана. Мы падзяліліся на групы, і кожная група пайшла, куды ёй падабалася. Я хацеў знайсці такія мясцінкі, дзе яшчэ ніхто не быў, і таму выбраў самыя нізкія і вузкія ходы. Дзе паўзком, дзе чапляючыся за шчыліны ў сценах, я прабіраўся наперад, пакуль не сціхлі галасы сяброў. У адным месцы я ўбачыў правал. Мне захацелася саскочыць і паглядзець, што там унізе. «Наўрад ці там глыбока», —



*Раптам нешта чорнае велізарнае мільганула ля сцяны.*

падумаў я. Але ўсё-ж перадумаў і спачатку кінуў камень. Налічыў да трох, пакуль пачуў гук ад падзення каменя. Гэта значыла, што камень праляцеў 45 метраў. Цяпер я не шкадаваў, што не саскочыў у бездань.

Раптам нешта чорнае велізарнае мільганула ля сцяны. Я крыкнуў ад страху і выпусціў з рук свечку. У цемені нехта стукнуўся аб маю галаву, балюча рвануў за валасы, падрапаў скуру. Я пачаў адбівацца і схапіў... маленькага кажана, які заблытаўся ў мяне ў валасах. Велізарным быў яго цень. Супакоіўшыся, я пачаў шукаць свечку. Ледзь знайшоў яе, доўга чыркаў адсырэлыя запалкі. Нарэшце, запаліў святло і хутка папоўз назад. «Толькі-б хутчэй знайсці сяброў», думаў я.

Я сустрэў іх у першай зале. Не паспеў я ім расказаць аб сваіх прыгодах, як здалёку пачуўся немы крык.

— Міша ўпаў! — закрычаў Ваня, выбягаючы з бакавога хода.

Мы кінуліся за ім. Ля месца, адкуль упаў Міша, ход крута спускаўся ўніз. На слізкай гліне нельга было ўтрымацца.

— Мішка, ты жыў? — крыкнуў я.

— Здаецца, жыў, — пачулася знізу.

— Што ты там робіш?

— Плаваю. Вада страшэнна халодная, доўга не вытрымаю. А берагі крутыя, не вылезці.

Тут толькі мы спахапіліся, што не ўзялі вяроўкі. Але, параіўшыся, знайшлі выхад. Самы дужы з нас лёг на краю схіла, абхапіўшы рукамі тоўстую сасульку сталагміта. Другі, ухапіўшыся за яго ногі, спусціўся ніжэй і таксама лёг на жывот. Так мы наладзілі жывы ланцуг. Я быў шостым, і мае ногі дасталі да падзямельнага возера. Міша ўхапіўся за іх і вылез па нашых спінах. Потым вылез я і ўсе астатнія.

Гэта быў другі сур'ёзны ўрок, які я атрымаў у пячоры. Але давялося атрымаць і трэці.

Замёрзлыя і змораныя пайшлі мы да выхаду. Яшчэ ў лесе мы наламалі палак, збіраючыся ўтыкаць іх у падлогу пячоры, каб потым знайсці дарогу назад. Але гэты спосаб аказаўся дрэнным. Палка не паказвала напрамку, асабліва, калі стаяла на перакрыжаванні. Апрача таго, мы не даручылі гэтую справу каму-небудзь аднаму. Некалькі груп, гуляючы па пячоры, панатыкалі кожная свае тычкі, і ўсе яны пераблыталіся.

Мы заблудзіліся. Пакуль спрачаліся, куды ісці, свечкі дагарэлі. І як гэта мы маглі паліць адразу ўсе свечкі, не пакінуўшы ніводнай на запас! Тут-жа патушылі іх, апрача адной, і зноў пайшлі шукаць выхад. Мы блыталіся з поўгадзіны, але гэты час здаўся нам вечнасцю.

Мы стараліся жартаваць з свае нявопытнасці, але кожны міжвольна думаў пра Тома Сойера з яго сяброўкай, якія паміралі ад голаду ў цёмнай пячоры.

Апошні агарак канчаўся, калі мы знайшлі выхад. Але тут мы са страхам убачылі, што вада ў згібе трубы ўзнялася амаль да самага скляпення. Давялося лезці па горла ў халодную ваду, каб прайсці небяспечнае месца. Яшчэ поўгадзіны блуканняў, і вада закрыла-б выхад. Мы ледзь не трапілі ў пастку.

У першую хвіліну сонца асляпіла нас. Потым мы зірнулі адзін на аднаго і расмяяліся. З ног да галавы мы былі вымазаны гразёю. Нам стала весела. Усе страхі, як рукой зняло. Мы ўжо ганарыліся сваімі прыгодамі.

— Шчасліва выбраліся, ну і добра! Будзе аб чым расказаць сябрам! — сказаў Міша. — Айда купацца! Другі раз пойдзем з праваднікам!

Брудныя прыбеглі мы на пляж і кінуліся ў цёплыя хвалі.

# Куранята

*Антон БЯЛЕВІЧ*

*Мал. Ф. Круглянскага*



Грэе яйкі сваім цёплым пухам
Квактуха
Колькі дзён, колькі тыдняў падрад.
І квактуха наставіла вуха:
Звоняць дзюбкі жывых куранят.
Прабіваюць браню-шалупайку,
Не сядзіцца ў сухіх, цёмных яйках,
Да жыцця іх нястрымны напор.
І квактуха вядзе сваю стайку
На двор.
І бялеюць,
Жаўцеюць
Іх майкі,—
Іх пуховы,
Вясновы
Убор.
Певень кліча квактуху:
—Паслухай,
Калі ласка—гатоў вам абед!
Назапасіў для вас я зярнят...
А квактуха ўзлахмаціла пух:
—Шырай круг,
Шырай круг!
Нібы вывела з яйкаў нам свет,
А не гэтых малых куранят.



*На рэчцы.*

Фота А. Дзітлава.





# ВЕСЕЛА І КАРЫСНА

*(У Віцебскім дзетдоме імені Н. К. Крупскай)*

## Вось і доўгачаканае лета



М. З. Шапіра.

Насталі цёплыя летнія дні. Ужо з першых дзён канікул мы пераключыліся на лагернае жыццё. Вялікую дапамогу ў арганізацыі летняга адпачынку нам аказвае загадчык навучальнай часткі дзетдома Ольга Цімафееўна Красоўская.

Мы склалі падрабязны план летняга адпачынку, размеркавалі паміж атрадамі і звеннямі цікавыя занкткі.

Атрад № 1 вывучае гісторыю Віцебска. Піонеры наведалі краязнаўчы музей, збіраюць даведкі аб паходжанні назваў вуліц, аб першых будаўніках горада, вывучаюць пяцігадовы план аднаўлення роднага горада.

Начальнік штаба атрада Тося Макеева расказала на піонерскім кастры аб нашэсці Напалеона на Расію. Гэта вельмі зацікавіла рэбят, і яны зрабілі экскурсію на Успенскую горку, дзе стаіць помнік адважным рускім воінам айчыннай вайны 1812 года. Піонеры з цікавасцю прачыталі ўрыўкі з рамана «Вайна і мір», пазнаёміліся з біяграфіяй Кутузава.

Атрад № 2 займаецца вывучэннем мясцовай прыроды. Піонеры ўжо засушылі шмат кветак, лісцяў, матылькоў, насякомых.

Атрад № 3 назірае за надвор'ем. Дзеці самі зрабілі флюгер, дажджамер, сонечны гадзіннік і штодзённа адзначаюць змены ў надвор'і. Адначасова яны вывучаюць з'явы прыроды: чаму бываюць гром, маланка, землетрасенні, дождж.

Апрача гэтых заняткаў усе піонеры часта робяць паходы ў лес з начлегам і без начлегу, арганізуюць фізкультурныя спаборніцтвы, праводзяць вечары самадзейнасці, развучваюць новыя песні, чытаюць кнігі, даглядаюць сваю гаспадарку.

Старшая піонерважатая М. З. ШАПІРА

## Маё звяно

На маленькай палянцы сярод квітнеючых рамонак сабралася маё звяно. На гэты збор піонеры з'явіліся асабліва радасныя: усе яны закончылі навучальны год з адзнакамі «чатыры» і «пяць» і ні ў каго няма нават «троек».



Юнат Міша Галыня.

— Цяпер можна весела і адпачыць, — радуюцца яны.

На гэтым зборы мы падрабязна абмеркавалі, чым будзем займацца летам.

У нас ёсць свой участак памідораў.

Мы штодзённа радасна сустракаем раніцу, бяжым на рэчку па ваду і з вясёлым шумам паліваем памідоры.

Удзень мы купаемся, бегаем на квітнеючую сенажаць, дзе збіраем калекцыі кветак і арганізуем свае любімыя гульні: «Начны вартавы», «Разведчыкі», «Тройка» і інш. Адначасова мы развучваем піонерскія песні, робім вылазкі ў лес.

Важаты звяна Віця ГРЭКАЎ



*Збор звяна Віці Грэкава.*

## Люблю кветкі



Іна Гіро.

Я вельмі люблю прыроду. Асабліва падабаюцца мне прыгожыя кветкі. Догляд за імі — мой самы прыемны занятак.

Яшчэ летась увосень я назбірала шмат розных кветак і ўсю зіму захоўвала іх у сухім месцы. Мы парашылі ўсім звяном вырасціць вакол дзіцячага дома свае прыгожыя кветкі.

Ранняй вясной мы падрыхтавалі глебу ў парніках, праверылі насенне на ўзыхожасць і пасеялі. Я ўстанавіла дзяжурства па догляду за кветкамі, а ўжо 16 мая высадзілі іх на клумбы. З гэтага часу кветкі пачалі хутка расці. Мы старанна даглядалі іх: палівалі, палолі, узрыхлялі глебу і падкармлівалі гноем.

23 мая расквітнела першая кветка «Анюціны вочкі», потым маргарыткі, а цяпер ужо ўсе клумбы пакрыліся самымі рознастайнымі кветкамі.

Усе дзеці радуюцца, а больш за ўсіх я.

І як-жа не радавацца, калі наша праца не прапала дарма.

Іна ГІРО.



*На піонерскім кастры рэбяты самі паставілі спектакль «Лясная казка».*

## Люблю вышываць

Шмат каго з нас цікавіць мастацкае вышыванне. У нашым дзіцячым доме вышываюць і дзяўчынкі і хлопчыкі. Асаблівага поспеху дасягнула Ліпа Янчыліна, якая добра малюе і свае-ж малюнкі вышывае. Яна вельмі акуратная і настойлівая; калі ўжо за што возьмецца, то абавязкова зробіць.



Ліпа Янчыліна.

Лепшая праца яе, вышытая гладдзю — ордэн «Победа»—знаходзіцца на выстаўцы дзіцячай творчасці ў г. Мінску.

Я таксама вельмі люблю вышыванне. Ужо пядрэнна навучыўся вышываць «крыжыкам».

Валодзя СЛЕПАЎ.

## Нашы падшэфнікі

Маё звяно ўзяло шэфства над каровамі і цялятамі. Калі яны прыходзяць з поля, мы даем ім пойла і траву.

Асаблівай павагай у нас карыстаецца «Лыска», і яна сама гэта адчувае, бо як заўважыць нас, абавязкова мычыць і бяжыць насустрач. А дзеці ўжо нарыхтавалі ёй прысмакі — канюшыну, якую яна вельмі любіць.



Ніна Сінякова.

«Лыска» ў нас была яшчэ да вайны. І старыя выхаванцы, Маслова Е., Шабека Т. і Галыня М., хавалі яе ўсю вайну ад немцаў. Цяпер яна зноў корміць нас.

Спачатку яна давала 18 літраў малака. Цяпер удой малака ў дзень павялічыўся да 22 літраў.

Важатая звяна Ніна СІНЯКОВА.

## Даглядаю трусікаў

Вельмі люблю я трусікаў. Як прыгожа яны кратаюць сваімі доўгімі вушкамі, а якія ў іх markdown разнакаляровыя вочкі: то чырвоныя, то блакітныя, то шэрыя...

Спачатку для дзіцячага дома мы купілі чатырох трусікаў. Наглядаць за імі пажадаў я. Для кожнага з іх зрабіў драўляныя клеткі, з аднаго боку сценку зрабіў сеткавую. Кожны дзень клеткі чысціў, падсцілаў свежае сена. Зімой карміў трусікаў аўсом, бульбай, морквай, буракамі і астаткамі хлеба. Паіў вадой з малаком.

А калі вырасла трава, я збіраў для іх канюшыну, малочнік, цімафееўку і лазовую кару.

Вельмі клапатліва наглядаў за самкамі, ад якіх чакаўся прыплод. Хоць многа клопату даставілі яны, але затое ў клетках ужо налічваецца 11 трусікаў. Усе яны жвавыя і здаровыя.

**Коля БЯЗБОЖНЫ**



*На здымку: Коля Бязбожны з сваімі трусікамі.*

Фота А. Дзітлава.

## Пастушкі

*Лявон ПРЫСЯГА*

Раз у лесе на ялінцы
Зауважыў пастушок,
Што на самай макавінцы
Скача жоўценькі звярок.

Тут гурбою да ялінкі
Падбягаюць пастушкі.
Разглядаюць макавінку:
Што за звер там? хто такі?

І пайшла аб ім гаворка,
Паляцеў дзіцячы крык:
— Ну, напэўна, там вавёрка!..
Ды звярок той раптам знік.

— Эх, была-б цяпер гармата,
Ды хутчэй-бы зарадзіць,
Дык тады адным зарадам,
Мы-б маглі вавёрку збіць!

— Не,—другія хлопцы раяць.—
Лепш ялінку патрасем,
Дык яна ўпадзе жывая,—
Мы яе і падбярэм.

Раптам Янка, Юрка, Грышка
На ялінку успаўзлі,
Страсанулі—толькі шышкі
Паляцелі да зямлі.

# Світка

Е. ІВАНОВІЧ

*Мал. В. Басава*

Яшчэ да ўсходу сонца пабудзіла маці Янку, каб гнаў пасвіць карову.

— Так голым і пагоніш? — здзівілася маці, калі Янка ў адной кашулі вышаў з хаты.

— Мне цёпла,—адказаў Янка, праціраючы вочы.

Янка ўжо быў за варотамі, калі яго дагнала маці і ўскінула яму на плечы світку.

Пакрыўджаны Янка не вытрымаў і сказаў:

— Хлопцы заўсёды ходзяць так. А ў мяне то торба з хлебам за плячыма, то світка, то мяшок ад дажджу...

Усю дарогу не давала супакою Янку світка. Гэта добра адчувала і рагатая Сонька. Бо немагчыма было дагадзіць сёння Янку. Калі яна пойдзе шпарчэй, яе балюча асадзіць повад, калі ледзь замарудзіць крок—дубца заробіць.

На папары, куды яе прыгнаў Янка, ужо хадзілі каровы. То тут, то там групкамі сядзяць пастушкі. А ў адным месцы хлопцы не сядзяць, а скачуць заўзята.

— У нешта вясёлае гуляюць,—пазайздросціў ім Янка і раптам адчуў калючы холад.—Як у полі ярка і роса!

І Янка лепш накінуў на плечы світку. Ён пусціў да чарады Соньку, а сам пайшоў да вясёлай кампаніі.

Убачыўшы Янку, хлопцы кінуліся яму насустрач.

— Дай пагрэцца! Замерзлі... — закрычалі яны, і кожны стаў цягнуць з плеч Янкі світку.

Янка скінуў світку і хлопцы шчыльна, як казлякі, уселіся пад цёплай мяккай вопраткай.

— Усё-такі ты, Янка, разумна зрабіў, што узяў світку,—сказаў Сымонка, які быў у кароценькіх штоніках і ў шапцы без брыля.

«Не я, а мама мая», падумаў сам сабе Янка, ачуваючы прыемнае цяпло ў плячах.






*Янка МАУР* *Мал. А. Волкава*

(Працяг *)

## ГУБЕРНАТАРСКІ СЫН

Я стаю на купінцы і цаляю пераскочыць на другую. Але купінка, на якой я стаю, ні хвілінкі не пабудзе спакойнай—круціцца, хістаецца, нібы хоча скінуць мяне ў балота. Сяк-так пераскочыў на другую, а там яшчэ горш: яна не толькі круціцца, але і сама апускаецца ў балота; ад гэтага робіцца слізкай, і стаяць на ёй не лепей, як на спіне жабы. Трэба хутчэй пераскочыць на наступную купінку, хоць да яе і далекавата. Каб яшчэ можна было добра адштурхнуцца, то не бяда, а як тут адштурхнешся, калі мая купінка апусцілася настолькі, што балота даходзіць мне да каленаў. Нічога не зробіш, трэба скакаць. Скокнуў—і трапіў на купінку не нагамі, а рукамі. А ногі з усім целам засталіся ў балоце. Нават галава на момант пагрузла ў балота, але толькі на момант.

Сяк-так узабраўся я на купінку жыватом, потым стаў на карачкі—і зноў пачынаецца тое самае: круціцца і грузне праклятая купінка. Давялося скакаць ужо па-жабінаму—усімі чатырма нагамі і плюхнуцца па-жабінаму—жыватом. Зноў рукамі зачапіўся за купінку. Гэтая купінка была ўжо сталая, нават маленькая сасонка на ёй расла. Суседняя купінка таксама была добрая, а наступная—зноў нядобрая. Але для мяне было ўсёроўна, якая яна— хіба ўпершыню мне было качацца ў балоце?

Цяпер мне здаецца, што тады я рызыкаваў жыццём, а тады мне было-б вельмі смешна, каб хто гэтак сказаў. Гэта ўсёроўна, каб вам хто сказаў, што вы праваліцеся скрозь зямлю.

Нарэшце, выбраўся з балота. Вядома, ад галавы да ног я быў пакрыты чорнай гразёю, але адчуваў сябе ў ёй зусім нядрэнна. Галоўным чынам таму, што па сонцы ў ёй было вельмі цёпла.

Недалёка праходзіў бальшак. Па баках яго былі канавы з чыстай вадой. Там можна было памыцца самому і вымыць сваю зрэбную кашулю са штанамі.

Толькі я распрануўся, бачу—па дарозе едзе каламажка, панская, на рэсорах. Конь сівы і вельмі круглы. Фурман з пугай сядзіць наперадзе, а ззаду, на мяккім сядзенні,—хлопчык гадоў дванаццаці. Сядзіць адзін, самастойна; і каламажка, і рэсоры, і фурман, і конь—усё гэта для яго аднаго. З якіх-жа важных паноў павінен ён быць, калі так едзе!

А які-ж ён прыгожы! Як раскошна ўбраны! Шапка з белым верхам, з сінімі кантамі, з бліскучым брылем і нейкім знакам на аколышы. Куртка чорная, таксама з сінімі кантамі і бліскучымі белымі гузікамі. Штаны на выпуск і чарнюткія чаравікі.

Я не мог адвесці сваіх брудных вачэй ад гэткага хараства. А ён, зірнуўшы на мяне, нібы ўсміхнуўся, і ад гэтай увагі я адчуў задавальненне, нават гонар. Пыл ад каламажкі агарнуў мяне з галавы да ног і заляпіў вочы, нос, рот, вушы. Але я стаяў і доўга пазіраў услед, уяўляючы сабе, як павінен адчуваць сябе такі шчаслівы хлопчык...

Потым я памыўся, вымыў сваю вопратку і хацеў быў разлажыць яе, каб высахла, але тут здалёк пачуўся голас:

— Янка-а!... Сюды-ы!... Хутчэ-эй!...

Гэта крычаў Кітка. Ён не захацеў ісці праз балота разам са мной і абходзіў недзе далёка. Калі ён кліча, значыцца, трэба. А адзенне высахне і на целе. І я паімчаўся ў той бок.

А ў тым баку стаяла высокая і тонкая сасна, а на ёй варонняе гняздо. Кірпаты, белагаловы Кітка ўжо хадзіў вакол дрэва, задраўшы галаву.

— Во!—сказаў ён, паказваючы пальцам на гняздо.

Больш нам не было патрэбы разважаць—мы і так разумелі адзін аднаго. Калі гняздо,—значыцца, трэба дабрацца да яго і разбурыць, хаця-б дзеля гэтага давялося зламаць руку, нагу, ці шыю. Навошта нам гэта было—мы і самі не ведалі, але абавязак свой выконвалі добрасумленна.

Я сказаў:

— Я палезу: я мокры і буду лішнуць.

Супроць такога доваду Кітка пярэчыць не мог. Дабраўся я да гнязда, гляджу—яно нейкае круглае, ніякай яміны няма. Паварушыў яго—як загудзе...

---

*) Пачатак гл. у № 3, 4, 5—6.



*Толькі я распрануўся, бачу—па дарозе едзе каламажка.*

— Восы!..

Праз момант я быў на зямлі і, кульгаючы, даганяў Кітку, які ўжо ляцеў наперадзе. Калі мы спыніліся, дык выявілася, што ў мяне пакусаны твар, шыя і рукі, пабіты бок і баліць нага ды яшчэ ў дадатак падраная кашуля. Як я пакажуся маме?..

— Добра, што я не палез,—радуецца Кітка, не разумеючы, што так казаць прыяцель не павінен.

Прышлося вяртацца дахаты. Па дарозе забілі адну змяю, другую. Гэтага дабра ў нас было, колькі хочаш, і мы лушчылі іх нямала. Але на ўскрайку лесу адной змяі пашанцавала ўцячы ад нас у куст. Аднак мы палезлі за ёю і ў куст, але раптам пачулі злоснае сіпенне.

Ого! Вось якая яна храбрая! Такой мы яшчэ не сустракалі! Ад куста прышлося адступіць, але затое мы запусцілі туды корч. Зноў пачулася сіпенне, ды такое моцнае, грознае, што мы трошкі спалохаліся. Але разам з тым і зацікавіліся. Адступілі яшчэ крыху, і давай бамбардыраваць куст і палкамі, і каменнем. І з кожным разам узмацнялася сіпенне...

А што, калі яна выскачыць ды кінецца на нас? Такія выпадкі бываюць. Людзі кажуць, што адна такая раз'юшаная змяя гналася нават за конным чалавекам. Скруціцца, як пружына, а потым адразу выпрастаецца, ды як скокне! Ледзь-ледзь конь уцёк. Вельмі небяспечная справа, але... бамбардыроўкі ўсё-ж такі мы не спынялі. Чаму—не ведаю і да гэтага часу.

Раптам Кітка як закрычыць немым голасам:

— Глядзі—на нас паўзе!..

Але я не паспеў убачыць, бо ногі мае ўжо неслі мяне ўслед за Кіткам, зусім забыўшыся на кульгавасць. Азірнуцца мы баяліся, бо там ззаду гоніцца за намі змяя: скруціцца—раскруціцца, скруціцца—раскруціцца... Толькі ў полі азірнуліся—і нічога не ўбачылі. Супакоіліся, адпачылі і зараз-жа забыліся на ўвесь гэты страх.

Потым я расказаў Кітку пра хлопчыка ў каламажцы і паставіў пытанне:

— Хто ён такі мог быць? Можа, сын пристава?

Але Кітка адмоўна пакруціў галавой.

— На рэсорах, кажаш?—перапытаў ён.

— Але.

— І з фурманом?

— З фурманом.

— І адзін?

— Адзін.

— Ну, дык гэта губернатарскі сын,—аўтарытэтна рашыў Кітка.

А я нічога не мог сказаць ні за, ні супраць. У нашай кампаніі асартымент паноў быў зусім небагаты. У вёсцы не было ніводнага пана—ні

пана, ні пісара, ні настаўніка, нават урадніка. І памешчыка паблізу не было. Найвышэйшым панам для нас быў прыстаў, якога нават мала хто з нас бачыў. А далей найбольш знаёмымі нам словамі былі—губернатар і цар. Чаму-ж тады таму хлопчыку не быць сынам губернатара?

Дома маці мяне сустрэла самымі лютымі словамі:

— У-у, шыбенік! (У такіх выпадках яна заўсёды называла мяне гэтым гучным імем). Ты дзе гэта бадзяўся? Куды лез? Я табе пакажу!..

Аднак, канфлікт скончыўся тым, што яна мне паказала «камы» з пытляванай мукі, ды такія смачныя, такія смачныя...

Увечары я доўга не мог заснуць у нашым падстрэшшы—у вачах усё стаяў губернатарскі сын. Дзе ён цяпер спіць і як? Што ён еў? Мусіць камы пшанічныя і на адным малаку.

— Мам! А губернатар хлеб есць?—штурхаю я пад бок матку, якая пачынае ўжо драмаць.

— Госпадзі, што гэта табе прышло ў галаву?—неахвотна адказвае маці.—Ну, вядома, есць. Спі!

— А булкі есць?

— А як-жа-ж? Чаму яму не есці булак? Ну, спі!

— А навошта яму есці хлеб, калі ён можа есці адны булкі?

— Абрыдаюць булкі, тады есць хлеб,—мармыча мама.—Усё есць. А цяпер спі.

Вось дык дзіва: абрыдаюць булкі! Хіба так можа быць? Відаць, недзе там на свеце ёсць яшчэ шмат цікавага і незразумелага. Але які гэта свет? дакуль ён ідзе?..

— Мам!—зноў штурхаю я мамку.—А губернатар здорава скача?

— А? Што?..

— Губернатар далёка можа скокнуць?

— А божухна, ды што з табой—нават устрывожылася маці.—Адкуль такія глупствы лезуць табе ў галаву? Ды навошта яму скакаць, ён можа хадзіць і ездзіць. Ці заснеш ты сёння, нарэшце?

А мне зусім не глупствы ў галаву лезуць, а справы сур'ёзныя. Важнейшай нашай хлапецкай гульнёй было скаканне праз раўчукі, яміны, лужыны—хто далей скокне? Усім нам было ясна, што праз гэты роў, які ніхто з нас не можа ўзяць, мог-бы пераскочыць толькі дзядзька Гаўрыла. Праз тую сажалку—толькі прыстаў. А праз усю лагчыну (рэчкі ў нас не было), аж да самага лесу, мог-бы пераскочыць толькі цар. І нічога дзіўнага няма, што мне захацелася ведаць, якое месца ў гэтым шэрагу займае губернатар.

Адзначу яшчэ, што я не памятаю, каб хто з нашай кампаніі, хоць-бы і старэйшы ад мяне, калі-небудзь казаў, што гэта няпраўда.



*Аднак мы палезлі за ёю і ў куст.*

## „ВЫВУЧЭННЕ" ПТУШАК

Нізкі, балоцісты луг, а на ім усё купінкі і купінкі—акурат як тыя бародаўкі на целе. На некаторых купінках расце бярэзінка, ці алешына. Добрая мясціна для кнігавак. Тут і трэба шукаць іхняе гняздо. Толькі чамусьці ніводнай кнігаўкі не відаць. Пахаваліся яны, ці што? Здаецца, там далёка лётаюць і кігікаюць. Відаць, давядзецца ісці туды.

Але раптам над галавой пачуўся трывожны крык. Ага, ёсць! Цяпер толькі трэба глядзець пад ногі: тут павінна быць гняздо. Чым далей я іду, тым трывожней робіцца крык. Гэта значыць, што я іду правільна: гняздо трэба шукаць каля той чарнаватай купінкі. Бедная птушка аж заходзіцца ад жалобнага крыку, а я радуюся: вось зараз будзе гняздо.

Падышоў, агледзеў і чарнаватую купінку і ўсе купінкі навокал—ніякага гнязда няма. А кнігаўка ўсё крычыць ды лётае, толькі крыху лявей, над тым альховым кустом. Ну, добра знайду цябе і там.

Як толькі я пасунуўся туды, кнігаўка так замітусілася, так заскуголіла, што адразу выдала сваю тайну: гняздо недзе каля таго альховага куста. Іду да гэтага куста, а птушка аж кідаецца на мяне, крычыць над самым вухам, плача, захлёбваецца, нібы просіць пашкадаваць яе гняздо. Але нашага брата гэтым не возьмеш, для нас справа важней за ўсё.

Агледзеў я і куст і ўсю гэтую мясціну і—зноў нічога. Што за ліха такое? Няўжо яна мяне за нос водзіць? Але-ж не: яна лётае так ніз-

ка вунь над той лагчынкай, так баіцца, каб я туды не пайшоў, што на гэты раз памылкі ўжо не будзе.

І сапраўды: на гэты раз справа стала вельмі сур'ёзнай. Кнігаўка нібы звар'яцела, носіцца перад самым маім носам, нібы загароджвае мне дарогу, а крык яе такі, што нават маё загартаванае сэрца пачынае сціскацца ад жалю. Але я зараз-жа сябе стрымліваю і саромлю: які-ж я буду мужчына, калі паддамся жалю? Не, наперад і толькі наперад!..

Кнігаўка, відаць, зразумела, што я зараз падыйду да яе гнязда, і ў роспачы кінулася мне проста пад ногі, праляцела пад локцем, а потым вярнулася ды ледзь не зачапіла крылом за галаву. А крык! Што за крык! Нібы жанчына галосіць па сваім дзіцяці. А тут яшчэ другая кнігаўка прыляцела, мусіць, бацька. І яны пачалі барзніць сваё гняздо абодвы разам.

Але дарэмна: зараз я дабяруся да вашага гнязда. Вось і лагчынка. Тут многа купінак. Пераглядзеў я іх усе—і зноў нічога не знайшоў. А кнігаўкі аж заходзяцца ад жалобнага крыку... толькі не тут, а яшчэ далей улева.

А, вось вы як! Ашукаць хочаце мяне? Не выйдзе. Хоць вы і хітрыя, але і я не дурны: калі вы цягнеце мяне налева, значыцца, ваша гняздо знаходзіцца направа. Паглядзім, што вы цяпер запяеце.

Як толькі я накіраваўся направа, кнігаўкі зараз-жа кінуліся за мной з такім лямантам, з такім енкам, што адразу стала ясна: нарэшце, я натрапіў на правільны шлях. Там наперадзе была вельмі ўтульная мяспінка: некалькі кволых кусцікаў стаялі вакол зялёнай пляцоўкі, а на ёй, сярод асакі, хаваліся купінкі і ямінкі, вельмі зручныя для гнязда. Кнігаўкі цяпер і кружыліся там, часам ледзь не дакранаючыся крылламі да зямлі, а потым кідаліся грудзьмі проста на мяне, нібы гатовы былі хоць загінуць, але не пусціць мяне далей. Часам я нават рукамі махаў, каб адбіцца ад іх. Затое я быў упэўнены, што справа скончана—гняздо знойдзена. А калі падышоў да кусцікаў зусім блізка, то і кнігаўкі, відаць, таксама зразумелі, што справа скончана, і што болей ужо змагацца няма сэнсу. Яны ўжо не кідаліся на мяне, не крычалі, а толькі ціхенька ўсхліпвалі, як дзеці пасля плачу.

Я ўпэўнена стаў шарыць сярод асакі, абмацаў кожную купінку, кожную ямінку, агледзеў кожны куст і яшчэ многа кустоў і ямінак навакол—і зноў нічога не знайшоў.

У мяне аж слёзы на вачах выступілі. Я сціснуў кулакі і падняў іх к небу.

— Ну, пачакайце, паганыя! Будзеце вы мяне ведаць!

Але пагражаць ужо не было каму: мае кнігаўкі ціхенька зніклі, пасмяяўшыся з мяне, як з



*...Зараз я дабяруся да вашага гнязда.*

самага апошняга дурня. Найгорш было тое, што гэтак яны ашуквалі мяне не адзін раз. І не толькі мяне, а нават і Міхалутку. Вось хітрыя якія!

І толькі калі я адышоў досыць далёка ад гэтага месца і перастаў ужо думаць пра ўсё гэтае здарэнне, я нечакана, без ніякага шуму і гаму убачыў на зямлі чатыры знаёмыя яйкі, вельмі падобныя на ігрушы і пакрытыя рудым рабаціннем.

Сэрца забілася ад хвалявання, з прагнасцю накінуўся я на яечкі, схапіў іх, пакруціў у руках, а потым... потым не ведаў, што з імі рабіць. Ну, разбіў адно, каб паглядзець, ці наседжаныя яны—аказаліся наседжаныя. Засталося тры. Па дарозе ўбачыў на полі вялізны валун і запусціў у яго другім яйкам. Паглядзець, як чмякнулася яно аб камень было нішто сабе, але надта ўжо кароткі быў гэты момант. Тады я запусціў другое яйка. Засталося адно. Яго я нёс дахаты. На двары сустрэў мяне Міхалутка, узяў яйка ў рукі і шпурнуў яго ў сцяну хаты. Так і разышлася ўся мая здабыча.

Таксама было і ў другіх рэбят. Усё наша «вывучэнне» з таго і складалася, што мы люта разбуралі гнёзды і знішчалі яйкі і... птушанят. Навошта, дзеля чаго—ніхто з нас не ведаў. Так сабе.

З птушанятамі, пад кіраўніцтвам Міхалуткі, мы вытваралі такое, ад чаго аж цяпер жах бярэ. Добра памятаю, як падкідалі ўверх варанё і стралялі ў яго каменнем... А другі раз не паленаваліся спецыяльна зрабіць клетку, каб пасадзіць туды маленечкіх, поўголых птушачак

і страляць у іх стрэламі з лукаў, таксама зробленых спецыяльна для гэтай справы... Гэта было даўно-даўно, а ў мяне і цяпер стаіць у вачах і жалобна ціўкае голас птушанятка, працятага стралой...

Праходзіў ля нас дзядзька Гаўрыла, зірнуў на нашу «забаву» і сказаў:

— Навошта мучыце птушак? Няма вам чаго рабіць, ці што?

Сказаў абыякавым тонам і пайшоў сабе далей. А калі падышоў дваццаціпяцігадовы Ягор, дык спыніўся, каб палюбавацца гэтай «гульнёй», і смяяўся разам з намі.

Я не вытрымаў, пабег да мамкі і расказаў, што робяць хлопцы. Мамка прытуліла мяне і сказала:

— Нядобра, вельмі нядобра. Птушкі нічога дрэннага нам не робяць. Яны, як і ўсё жывое, таксама жыць хочуць, і мучыць іх грэх. І не толькі птушка, але і расліна жыць хоча, і яе таксама не трэба псаваць.

Яна мне гаварыла такім чынам, нібы ўся прырода была жывая і нават разумная і што яе трэба любіць і шкадаваць, як чалавека. Аб тым, што птушкі прыносяць нам карысць, мамка, здаецца, нічога мне не казала. І калі мы часам рабілі шпакоўні, дык зусім не думалі, што шпакі прыносяць нам карысць, а рабілі для таго толькі, каб мець сваіх «хатніх» птушак.

Я не думаю, што нашы сяляне наогул не ведалі, якую карысць робяць нам птушкі, але бяда ў тым, што яны не падумалі ці не здолелі растлумачыць гэта сваім дзецям.

Колькі яек прайшло праз нашы рукі—і падлічыць нельга. А якія спецы былі мы ў гэтай справе! Кожны адразу пазнае, якой птушкі якое яйка. Кожны добра ведаў, дзе якая птушка любіць гнёзды рабіць, які выгляд маюць гэтыя гнёзды, колькі яек кладзе кожная птушка, якіх выводзіць птушанятак, якія звычкі і які характар маюць тыя ці іншыя птушкі. Адным словам, добра мы вывучылі птушыную справу, і ўсе гэтыя веды накіравалі на знішчэнне птушак. Хоць-бы каму прышло ў галаву зрабіць чучала птушкі. Ды каб і прышло, дык ўсёроўна мы не ведалі-б як зрабіць.



*Кожны адразу пазнае, якой птушкі якое яйка.*

Колькі разоў мы ні знаходзілі-б яйкі, мы заўсёды кідаліся на іх з прагнасцю, з хваляваннем, нібы ўпершыню бачылі іх. Але скарыстоўвалі большай часткай таксама, як я тады яйкі кнігаўкі. Хіба толькі замест каменя ці сцяны шпурлялі яйкамі адзін у аднаго. Можна было яшчэ біцца яйкамі, як у вялікдзень, але для гэтай справы птушыныя яйкі не падыходзяць: яны надта малыя і не трэскаюцца, а праламваюцца.

Не ведалі мы толькі, што з птушыных яек можна зрабіць цікавую калекцыю. Не было такога чалавека, які мог-бы нам пра гэта расказаць. Ды і наогул не было каму цікавіцца нашым жыццём.

(Працяг будзе).

## Колькі год зямлі?

Геалогія — навука аб Зямлі. Яна вывучае склад і пабудову Зямлі, яе гісторыю, выяўляе захаваныя ў ёй карысныя выкапні: руды, каменны вугаль, нафту і г. д.

Узрост Зямлі навука падзяляе на пэўныя адрэзкі часу, так званыя эры—Кайназойскую (новую), Мезазойскую (сярэднюю), Палеазойскую (старажытную) і Архейскую (самую старажытную, калі на Зямлі яшчэ не было ніякага жыцця).

Эра — гэта вельмі доўгі перыяд у гісторыі Зямлі. Так, напрыклад, вучоныя даводзяць, што Кайназойская эра налічвае каля 55—56 мільёнаў год, Мезазойская — 135—180 мільёнаў год, Палеазойская—360—540 мільёнаў год і Архейская — ад аднаго мільярда 200 мільёнаў год да аднаго мільярда 400 мільёнаў год.

Узрост Зямлі вызначаецца велізарнымі лічбамі — ад аднаго мільярда 700 мільёнаў год да двух мільярдаў 200 мільёнаў год. Узрост Сонца — 7 мільярдаў год.

А. АУКСЕНЦЬЕУ,
ст. навуковы работнік Акадэміі Навук БССР.



# ПЕРШЫ РУСКІ МАРСКІ ФЛОТ

Царэвіч Пётр вельмі любіў гуляць у вайну. Ён нават меў сваё «войска» з дваровых хлапчукоў. Гэтыя хлапчукі называліся «пацешнымі», бо яны былі ўзяты ў палац для гульняў і пацехі царэвіча.

Непадалёк ад царскага палаца стаяў звычайны хляўчук. У ім складваліся розныя непатрэбныя рэчы... Царэвіч Пётр выстраіў сваё «пацешнае войска» і сказаў, што хляўчук—гэта крэпасць і яе трэба ўзяць штурмам. Дзеці кінуліся наперад і ўварваліся ў хляўчук. Там яны ўбачылі шмат паламанай мэблі і сярод яе—старую парусную лодку—боцік. Боцік гэты меў сваю гісторыю. Калісьці, вельмі даўно яго прывезлі ў Маскву галандцы і падаравалі бацьку Пятра — цару Аляксею Міхайлавічу. Цар загадаў пакласці боцік у хляўчук, і з гэтага часу боцікам ужо ніхто не цікавіўся. Але яго сын Пётр марыў аб сапраўдным моры і сапраўдных караблях. Па яго просьбе забыты ўсімі парусны боцік быў адрамантаваны. Царэвіч доўга ездзіў у ім па Прасяному пруду ля Масквы.

Чуў Пётр, што замежныя гандляры па моры прыплываюць у Архангельск на прыгожых караблях, каб закупляць у Расіі лес, пяньку, пшаніцу, мёд. Усе гэтыя тавары яны збываюць за межамі і маюць ад гэтага вельмі вялікі прыбытак. Царэвіч Пётр марыў завесці свой флот, хаця нават ні разу не бачыў сапраўднага мора.

Мора ён убачыў ужо тады, калі стаў царом. Тады-ж ён вырашыў: абавязкова стварыць рускі флот. Але ў Расіі не было людзей, якія-б умелі будаваць караблі. Пётр I пасылае сваіх людзей за мяжу вучыцца карабельнай справе. Разам з імі паехаў і ён сам, змяніўшы сваё імя на імя маскоўскага цесляра Пятра Міхайлава. Як звычайны цясляр, сякерай і пілой працаваў цар, будуючы галандскія караблі. Гэта дапамагло яму добра вывучыць карабельную справу. Цяпер ён спяшаецца ў Расію, каб будаваць свае ўласныя караблі.

Прыехаўшы ў Расію, Пётр I адразу ўзяўся за справу. Расія задыхалася без сувязі з знешнім светам. У яе не было мора: Чорнае мора належала туркам, а Балтыйскім валодалі шведы. Адзінае выйсце—Белае мора з портам Архангельск. Але і гэтае мора зімою было не суднаходным, яно замярзала.

Не ўладаючы морам, нельга было пабудаваць флот. А без марскога флота цяжка было авалодаць морам. Пётр I знайшоў выхад: ён рашыў адначасова прабіцца да мора і будаваць флот.

Прабівацца да Балтыйскага мора было нялёгка. Для гэтага трэба было перамагчы шведаў, якія мелі моцную армію і вялікі марскі флот. Але гэта не палохала рускага цара.

І хутка Расія вышла да Балтыйскага мора. 16 мая 1703 года на адваёваных берагах Нявы быў урачыста закладзены горад Санкт-Пецербург (цяпер Ленінград). Шведскія войскі былі адкінуты на поўнач. Але моцны шведскі флот кожную хвіліну пагражаў рускай арміі. Патрэбна было, як мага хутчэй пабудаваць свой флот.

Ужо ў пачатку 1702 года па загаду Пятра I на берагах ракі Свіры працавалі сотні людзей, закладвалася вялікая карабельная верф у Расіі. А вакол верфі хутка вырас горад караблебудаўнікоў — Ладзейнае поле. Сам цар змяніў свой мундзір на куртку цесляра, ён разам з усімі працуе на будаўніцтве караблёў. Сам арганізуе працу, сам робіць чарцяжы, з сякерай у руках вучыць, як будаваць караблі. З усіх канцоў Расіі пацягнуліся да Свіры абозы з канатамі, парусінай, ішлі новыя партыі цесляроў, кавалёў, чорнарабочых. З Урала везлі якары і медныя гарматы. Уся Расія будавала свой флот. І дзень, калі Пётр I узышоў на палубу першага рускага карабля-фрэгата «Штандарт», быў для яго самым шчаслівым днём. Цэлы месяц ён не сыходзіў з борта фрэгата. Плаваў на ім па Ладажскім возеры, Няве. За гэтым першым караблём хутка пачалі спускацца ў ціхія воды Свіры фрэгаты, галеры, брыганціны.

А праз тры гады, вясной 1705 года, на прасторы Фінскага заліва з распушчанымі парусамі вышлі 14 вялікіх караблёў і 7 галер. Гэта быў першы ваенна-марскі флот Расіі, які стаў на варту горада і крэпасці Пецербург.

Шведы былі вельмі здзіўлены раптоўным з'яўленнем рускага флота. Два гады таму назад рускія не мелі ніводнага карабля, нават не мелі выхаду да мора. Пабудаваць флот у гэтакі тэрмін! Гэта зрабіць не змагла-б ніводная тады краіна, апрача Расіі з яе прыроднымі багаццямі і энергічным царом.

Раніцой 5 чэрвеня 1705 года шведы атакавалі сваім флотам рускі флот. Рускія ўпарта адбівалі атаку за атакай, і шведы вымушаны былі прызнаць сябе пераможанымі. 21 чэрвеня яны паднялі парусы і адступілі ад Пецербурга.

Так нарадзіўся і стаў на варту водных рубяжоў сваёй радзімы рускі марскі флот.

**Л. Байдакоў.**

## Як жывуць мурашкі

Мурашнік — гэта велізарны будынак мурашак. Вы думаеце ў гэтай кучы без ладу панакідана зямлі, дубчыкаў, саломінак? Не! Мурашкі збудавалі сабе вельмі прыгожы будынак. Тут у іх ёсць вялікія пакоі, калідоры і нават пакойчыкі для дзяцей. Тут шмат выхадаў з мурашніка. Гэтыя выхады яны нанач і ў дождж зачыняюць, каб ворагі не трапілі ў іх будынак.

У мурашніку ёсць рабочыя мурашкі. Яны будуюць мурашнік і даглядаюць дзяцей. Ёсць там і салдаты. Яны бароняць мурашнік ад розных ворагаў. У іх ёсць матка. Яна толькі нясе яечкі. Смешная яна. Жывоцік у яе гладкі-гладкі. Яна нічога не робіць, а толькі нясе яечкі. Нясе яна іх гэтак: ідзе ў пакой і выпускае з сябе шмат яек. Рабочыя мурашкі бегаюць за ёй, збіраюць яечкі, змочваюць іх слінаю, каб лепш раслі, і кладуць уздоўж сцяны ў пакоі.

Неўзабаве з белага яечка выходзіць чарвячок. Зноў ёсць праца рабочым мурашкам. Яны гадуюць чарвячкоў, і калі добра свеціць сонца, выносяць іх наверх пагрэць. Калі чарвячок вырасце, дык пачынае выпускаць з сябе тоненькую нітачку і гэтай нітачкай абгортвае сябе. Ён робіцца кукалкай. Цяпер гэтай кукалцы не трэба есці, але рабочыя мурашкі носяць яе штодня гуляць. Калі ў кукалцы вырасце ўжо сапраўдная мурашка і час ёй выходзіць, рабочыя мурашкі разрываюць мяшочак і дастаюць адтуль маладую мурашку. Потым яны расправяюць ёй ножкі і вусікі, выносяць на сонца, каб хутчэй абсохла і паправілася.

Апрача гэтага мурашкі займаюцца гаспадаркай. Яны трымаюць «кароў», якіх дояць і п'юць малако. Можа хто бачыў з вас на галінцы і лісціках травы маленькіх зялёных казявак. Яны такія-ж зялёныя, як і лісточак. Цельца іх гладкае, нізкае, ножкі тоненькія зялёныя і вусікі тоненькія-тоненькія. Гэта тля. Яна выпускае з жывата салодкі сок. Гэты сок вельмі падабаецца мурашкам. Там, дзе бывае тля, ўбачыш і мурашак. Мурашкі не чапаюць тлю, яны толькі п'юць яе салодкі сок. Яны нават умеюць даіць тлю, як мы доім кароў. Мурашкі сваімі пярэднімі ножкамі гладзяць тлю па спінцы, а тая выпускае сок. Мурашкі ніколі не крыўдзяць тлю, а нават пераносяць бліжэй да свайго мурашніка і даглядаюць яе.



*Улетку.*

Фота В. Лупейкі.



Фота **В. Лупейкі.**

# Г У С І

*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

Гусі-гусі, гусяняты,
З вамі цэлы дзень гуляю.
Вам, шумлівым і крылатым,
Ціха песеньку спяваю:

Не плывіце вы далёка
Рэчкаю глыбокай,
Не ўцякайце ад мяне,
Даганю вас на чаўне.

Позна ўвечары да хаты
Заганяю статак белы.
Гусі-гусі, гусяняты,
Спаць і я ўжо захацела.

Узыходзіць месяц вузкі,
Спіце, спіце, гускі!
Не крычыце толькі ў сне,
Не будзіце вы мяне.

# ЛАДАЧКІ-ЛАДКІ

*Дзяржаўнае Выдавецтва БССР друкуе зборнік беларускіх народных песенек-баек для дзяцей. Зборнік называецца «Ладачкі-ладкі». У кніжцы змяшчаецца шмат малюнкаў беларускіх мастакоў.*

*Ніжэй мы друкуем некалькі песенек з гэтага зборніка.*

## *Люлі, люлі, люлі...*

Люлі, люлі, люлі,
Палез кот па дулі.

Адмарозіў лапку,
Прышоў грэцца ў хатку.

Недзе катку дзецца,
Лапачцы пагрэцца.

Узлез-бы на палаткі,
Ды баіцца бабкі.

Палез-бы на вышкі,
Ды баіцца мышкі:

Там мышкі дурэлі,
Кату хвост ад'елі.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,

А котачка адняла,
Ды дзіцяці аддала.

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.

Ці самому з'есці,
Ці дзіцяці несці?

Думаў каток, думаў,
Думаў, ды надумаў:

І сам разок укушу
І дзіцяці занясу.



## *Іграў я на дудцы*

Іграў я на дудцы, ту-лю-лю,
Седзячы на будцы, ту-лю-лю!
Тулю, тулю, ту-лю-лю, ту-лю-лю.

Грае мая дудка, ту-лю-лю,
Пяе весялушка, ту-лю-лю!

Як іграла дудка, ту-лю-лю,
Прыбег скакаць Юрка, ту-лю-лю!

А за Юркам Янка, ту-лю-лю,
А за Янкам Танька, ту-лю-лю!
Тулю, тулю, ту-лю-лю, ту-лю-лю.



## *Кую, кую ножку...*

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.

Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.

Еду, еду, еду,
Ніяк не даеду.

За чатыры мілі
Кабылку ўмарылі.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.

Прыпрагу сароку,
Паеду далёка,

У новай кашулі,
Да майго дзядулі.

Скоранька паеду,
Каб паспець к абеду.

Дзед дасць піражочак
І сыра кусочак.

## *Ладу, ладу, ладкі...*

Ладу, ладу, ладкі,
Дзе былі?
— У бабкі.
А што елі?
— Кашку.
А што пілі?
— Бражку.

Бабулька казала,
Як нас частавала:
— Прыхадзіце часцей,
Пачастую ляпей:

Дам вам сыраквашкі,
Бярозавай кашкі,
Піражкоў у маку
І розных прысмакаў.

## *Ішоў Тодар з Тадораю*

Ішоў Тодар з Тадораю,
Знайшлі лапаць з абораю.

Ах, ты Тодар, я Тадора,
Табе лапаць, мне абора.

Ішоў пастух з пастушкаю,
Знайшлі каснік з істужкаю.

Ах, ты пастух, я пастушка,
Табе каснік, мне істужка.

Ішоў лысы і пляшывы,
На дарозе знайшлі грэбень.

Сталі біцца, калаціцца,
Хаця ён ім не патрэбен.

Ішла дзеўка з Барысава.
— А чыя ты?
— Дзянісава.
— Як завуць цябе?
— Гануся.
— А што робіш ты?
— Смяюся.



# ШАХМАТНАЯ КАМПАЗІЦЫЯ

Адной з галін шахматнай ігры з'яўляецца шахматная кампазіцыя—складанне задач і эцюдаў.

Як вядома, мэта ў шахматнай ігры—заматаваць варожага караля. У партыі вельмі часта здараецца такое становішча, калі ў сярэдзіне ігры можна дасягнуць мата, альбо дабіцца «нічыёй». Вынаходзіць такія камбінацыі — справа нялёгкая. А якраз навучыцца гэтаму дапамагае рашэнне шахматных задачак і эцюдаў.

Па жаданню, кожны з шахматыстаў можа не толькі навучыцца рашаць, але і складаць шахматныя задачы. Для гэтага трэба толькі памятаць некалькі асноўных правіл:

1. Першы ход у задачы — адзінаможлівы.

2. Першым ходам амаль ніколі не аб'яўляецца шах варожаму каралю.

3. Першы ход не павінен адымаць свабодных палёў у чорнага караля.

4. Вельмі рэдка белыя першым ходам здымаюць чорную фігуру.

У задачах, як правіла, заўсёды першы ход робяць белыя, і ўказваецца, у колькі хадоў можна даць мат.

У адрозненне ад задачы, эцюд рашаецца неабмежаванай колькасцю хадоў. Рашэнне эцюдаў звычайна звязана з нечаканым манеўрам, прыгожай афярай або цікавай камбінацыяй.

Ніжэй мы змяшчаем адну нескладаную задачу.



*Мат у 2 хады.*

## ЗМЕСТ




На вокладцы: мал. А. Волкава—„У лагеры".
На ўкладках: Улетку—фота В. Лупейкі. Сасна на Палессі—фота А. Дзітлава.

„Бярозка"—на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар А. Якімовіч.

АТ 01111 Здана ў набор 4/VII—46 г. Падпісана да друку 10/VIII—46 г. Друк. арк. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10 000 экз. Зак 248.

## КІТАЙСКАЯ ГАЛАВАЛОМКА



Некалькі тысяч год назад кітайскі вучоны Та-Нг упершыню ўжыў у якасці нагляднага дапаможніка геаметрычныя фігуры, атрыманыя з разрэзанага на часткі квадрата. Пазней з гэтага нагляднага дапаможніка нарадзілася гульня — кітайская галаваломка «танграмы» (ад прозвішча вучонага Та-Нг). Гэтая гульня — вельмі карысная забава, яна развівае кемлівасць і творчую вынаходлівасць.

Чаго толькі нельга скласці з гэтых сямі частак: і зайчыка, і коніка, і лямпу.

Рабіць танграмы трэба з кардонак, ці з цвёрдай тоўстай паперы. Квадрат можна узяць любога памеру. Як яго разрэзаць, паказана на малюнку.



## ДЛЯ ЗОРКАГА ВОКА



*Тут намалявана 20 розных звяроў і жывёл. Паспрабуйце адшукаць іх.*

## ЯК ПЕРАЛІЦЬ?

Вам дадзены збан, у якім змяшчаецца 4 літры малака. Трэба падзяліць гэтыя 4 літры пароўну паміж двума таварышамі, але ў вас з пасуды ёсць яшчэ толькі 2 збаны: у адзін уваходзіць паўтара літра, у другі — два з паловай.

Як-жа падзяліць 4 літры малака пры дапамозе толькі гэтых трох пасудзін? Прыдзецца, безумоўна, некалькі разоў пераліваць малако з аднай пасудзіны ў другую. Але як?

## Адказы на задачы з № 5—6

**Арыфметычныя знакі.** Расстаўляюцца, як паказана на малюнку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| : | + | × | − |
| × | − | : | + |
| − | × | + | : |
| + | : | − | × |

**Тры томы.** Пастаўце на паліцы тры томы злева направа і вы лёгка пераканаецеся, што Пеця прачытаў толькі II том.

**Лагагрыф.** Каса—Кама.

**Два рэбусы.** Адклад не ідзе на лад. Дзе тонка, там і рвецца.

Цана 2 руб. 50 кап.

*Мал. А. Волкава*



Разгледзьце малюнак і адкажыце на пытанні: Якая пара года? Які час дня? Ці ёсць блізка станцыя або чыгунка? Дзе поўдзень і поўнач? Што было на тым месцы, дзе ідуць рыбакі? Якую рыбу яны злавілі?

## ЧЫТАЧ І ГУСАК

*(ЖАРТ)*



